Цана асобнага нумару 300.000 м.

# Сын Беларуса



Адрэс рэдакцыі і адміністрацыі: Вільня, Віленская вул. 12, п. 6. (Wileńska 12 m. 6).
Рэдакцыя адчынена ад 12 да 2 г. штодня апрача сьвяточных дзён. Адміністрацыя ад 9 да 3 г.

Выходзіць тры разы у тыдзень.
Падпіска на адзін месяц з дастаўкай да хаты 3.600000 м.
Для заграніцы удвая даражэй.

Няпрынятыя у друк рукапісы назад не вяртаюцца.
Аплата надрукованага залежыць ад Рэдакцыі.
Цана абвестак: перад тэкстам 400.000 мк., сярод тэксту 300.000 м. і на 4 стр. 250.000 м., за радок пэтыту у 1 шп.

№ 6. Вільня, Субота, 21-га чэрвеня 1924 г. Год I.

## Расчараваньне.

Два гады таму назад, калі пачалася падгатоўка да выбараў у варшаўскі Сойм, сярод беларускага насяленьня Заходняе Беларусі панавала цьвёрдая вера, што і для яго настануць лепшыя часы.

— „Блага было дагэтуль, бо ня было ў нас сваіх заступнікаў у Сойме“,—думалі людзі, шчыра спадзяючыся, што ўваход у Сойм беларускіх паслоў рашуча пераменіць бяспраўнае палажэньне нашае краіны.

Вось гэтая вера і вяла беларускае сялянства да выбарных урн і ўкладала ў іх рукі картачкі з нумярамі, пад якімі ў выбарных сьпісках стаялі беларускія імёны.

Бліскучая выбарная перамога беларусаў яшчэ больш узмацавала веру народу ў магчымасьць паправы ягонае долі праз Сойм. Людзі йшлі да паслоў з сваімі скаргамі і пажаданьнямі, слалі прыгаворы і наказы, ў якіх дамагаліся роднае школы, зямлі, грамадзянскае свабоды і, урэшце, аўтаноміі для Заходняе Беларусі, каб сам наш народ быў гаспадаром у сваей Бацькаўшчыне.

Але йшоў месяц за месяцам, год за годам, а палажэньне беларускіх працоўных масаў пад уладай Польшчы станавілася ўсё цяжэйшым і цяжэйшым. Голас беларускіх паслоў у Сойме аказаўся „голасам гукаючага ў пустыні“. Польская дзяржава вустамі свайго „першага грамадзяніна“—прэзыдэнта Войцехоўскага—рашуча заявіла, што „прыражоным гаспадаром“ у межах Польшчы ёсьць і будзе выключна польскі народ. Жыцьцёвая-ж практыка паказала, што такая „няпісаная канстытуцыя“, абярнуўшая няпольскія нацыянальнасьці ў нявольнікаў „прыражонага гаспадара“, шмат мацней за пісаную, якая ўрачыста абвяшчала роўнасьць усіх грамадзян дзяржавы, незалежна ад іх нацыянальнасьці і веры.

І разьвеяліся надзеі на паляпшэньне бяспраўнага жыцьця беларускіх рабачаяў, і памерла вера ў Сойм, у Канстытуцыю, у аўтаномію. Дый не магло быць інакш: што можа быць варта аўтаномія, калі-б яе нават зацьвярдзіў той Сойм, які пераканаваны, што польскі народ прызваны панаваць над намі, а мы павінны служыць яму за той гной, на катораым узыходзе і расцьвітае „вялікая польская культура“?

Ніводзін з пунктаў беларускае выбарнае праграмы ня зьдзейсьніўся праз Сойм. І вось нашы паслы адкрыта заяўляюць з соймавае трыбуны, што народ наш зьняверыўся ў „дэмакратызьме“ Польшчы, зьняверыўся і ў тэй польскай дэмакратыі, якая так многа салодкіх слоў умела казаць перад выбарамі. Няма надзеі на лепшую будучыну ў сучаснай Польшчы, хоць-бы яна нават і „аўтаномію“ дала сваім „крэсам“....

Зусім такія самыя заявы робяць украінскія паслы ад імя свайго народу. Усюды — поўнае расчараваньне, поўнае зьняверанье ў магчымасьць лепшага жыцьця ў межах польскага гаспадарства.

І вось, замест зусім умяркаваных клічаў: родная школа, зямля, аўтаномія,—з соймавае трыбуны падаюць лёзунгі, якія йдуць шмат далей, чым усе выбарныя праграмы і клічы. Украінскія паслы гавораць аб вылучэньні украінскіх зямель з складу Польскае Рэспублікі: Павло Васыньчук—дарогай плебісцыту, Войтюк—жадаючы вываду польскіх войск, польскае адміністрацыі і далучэньня да Радавае Украіны. Беларускі пасол Тарашкевіч ускладае свае надзеі на палітычную і сацыяльную рэвалюцыю ў Польшчы.

Адзначаем гэтыя факты, як „знаменьні часу“, як канкрэтныя вынікі ўсяе дасюлешняе польскае палітыкі на „крэсах“. Лятуценьні апошняга польскага „рамантыка ў палітыцы“, п. Язэпа Пілсудскага, што Польшча зробіцца тым асяродкам, які сілай сваей культуры і панаючай у ёй свабодай будзе прыцягіваць да сябе суседнія народы,—разьбіты ўшчэнт рэальным жыцьцём. Польшча рэальная, Польшча, якая фактычна істнуе, аказалася такой далёкай ад Польшчы ідэальнай, высьнёнай барацьбітамі за яе незалежнасьць, што расчараваньне абхоплівае ня толькі прыгнечаныя „нацыянальныя меншасьці“, ня толькі традыцыйных заграначных прыяцеляў Польшчы, але і лепшыя элемэнты самога-ж польскага грамадзянства. А перад усім абхоплівае яно польскія працоўныя масы—польскіх работнікаў ад станка і ад ральлі, якія прадстаўляюць зусім рэальную сілу. І не „палітычныя рамантыкі“, а хіба толькі гэтая сіла здолее збудаваць такую Польшчу, якая ня будзе ўжо „турмой народаў“, а справядліва, па-брацку разьвяжа справу адносін з сваімі тэрыторыяльнымі і нетэрыторыяльнымі меншасьцямі.

## Прамова Б. Тарашкевіча

*13. VI. 24 г. у Сойме ў часе дыскусіі над expose прэм. мін. Грабскага.*

*Маршалак*: Голас мае п. Тарашкевіч.

п. *Тарашкевіч*: Высокі Сойме. Занархізаваная шляхта XVIII ст. мела тое вельмі згубнае ў сваіх выніках пераканаваньне, што Польшча „nierządem stoi“. Сяньня ўцёрлася іншае, думаю, што ў будучыне ня менш фатальнае і згубнае, пераканаваньне, сягаючае аж да вышынь палітычнае мысьлі, што

**Польшча стаіць цудам.**

Маем: цуд зьмёртвыхустаньня Польшчы, цуд ацаленьня Польшчы, або цуд над Віслай, і апошні цуд аздараўленьня скарбу, ці фінансавая санацыя.

Нельга думаць, што галоўная хвароба сяньняшняга гаспадарчага жыцьця—гэта благія грошы.

Прычына хваробы ляжыць куды глыбей — у глыбокім гаспадарчым крызісе. Ужо самая вайна—гэта пачатак гаспадарчага крызісу. Распачаўся ён дзеля таго, што народныя промыслы, промыслы нацыянальныя і нацыяналістычныя, канкуруючы паміж сабой, давялі да аружнае барацьбы.

Заключэньне міру ніякай дарогай ня спыніла гаспадарчага крызісу, але скарэй увяло ў новую фазу, паглыбіла яго ў цэлай Эўропе, а нават у цэлым сьвеце. Ведама, што вялікія эканамічныя багатыры Эўропы, якімі ёсьць Англія, Францыя і Нямеччына, утрацілі значную частку сваіх рынкаў у калёніях, якія ў часе сусьветнай вайны, творачы свае ўласныя промыслы, вызваліліся ад залежнасьці ад эўрапэйскіх дастаўшчыкаў.

Прашу паноў, пасьля пэрыяду інфляцыі, пасьля пэрыяду ўпадку валюты наступіў другі пэрыяд—пэрыяд гаспадарчага крызісу. Гаспадарчы крызіс і інфляцыя—гэта два канцы таго самага кія, якія сяньня б'юць паперамену па няшчаснай Эўропе.

Паміж гэтай Сцыльляй і Харыбдай інфляцыі з аднаго боку і гаспадарчага крызісу з другога можна надта зручна выкручывацца; прыклад—Чэхаславакія.

Паглядзім-жа, як гэты патэнтаваны ўжо фінансавы геній, п. Грабскі, выкручываецца паміж гэтымі небясьпекамі.

**Падаткі вядуць да зьнішчэньня вёскі.**

П. Грабскі, як ведама, сягнуў ня толькі да даходаў, але да часьці маемасьці. І як-жа гэтая частка маемасьці бярэцца? Бярэцца, так сказаць, „на ўзьвей вецер“.

Мэтады агентаў Міністэрства Скарбу, галоўным чынам на вёсцы, вельмі часта папросту граніча́ць з ашуканствам.

Перад усім платнік ня ведае, сколькі, калі і ў якім часе будзе магчы плаціць свае падаткі.

Далей, вышыня ападаткаваньня ў краі зруйнаваным і зьнішчаным вайной даходзіць да такое меры, якая істнуе ў краі, красуючым дабрабытам, як Італія. Апроч таго, мусіў-бы сказаць, што падатковая сыстэма Польшчы ў сяньняшняй хвіліне—нязьмерна дражнючая, асабліва на нашых беларускіх землях. У той час, калі сяляне прывыклі плаціць падаткі ад зямлі, яны сяньня

**плацяць нязьлічаную лічбу розных падаткаў:**
„państwowych i komunalnych“ — так, што запраўды няма тыдня, калі-б ня трэба было плаціць падатку. А ёсьць, напрыклад, такія падаткі, якія ў вачох падатнікаў выклікаюць прост абурэньне. Такім падаткам ёсьць напрыклад падатак „spadkowy“.

У той час, як у сялянскай сям'і паміраець бацька і пакідае па сабе ўдаву і дзеці сіроты, тады гэты

**падатак „spadkowy“**
выдаецца запраўды

**карай за сьмерць,**
ды так гэты падатак і разумеюць сяляне.

Усюды ведама і сьцьверджана, што мэтады аздараўленьня Скарбу п. Грабскага вядуць да поўнага абядненьня вёскі і да прамысловага крызісу.

**Бюджэт польскі--бюджэт вайны.**

У той час, калі ў Заходняй Эўропе кінуты лёзунг міру, тады польскія палітыкі цьвердзяць, што „si vis pacem, para bellum“. А запраўды гэты прынцып давёў і вядзе да вайны. Хочучы стварыць мір, хочучы быць тварцом міру, трэба мір спраўна прыгатаўляць. Слушна гэта сказаў пасол Барліцкі, толькі, нажаль, ня зусім хацеў вывясьці з гэтага лёзунгу ўсе пасьледзтвы, бо, жадаючы чынна прыгатаваць мір, трэба хіба зьменшыць мілітарны бюджэт?! А бюджэт польскі—гэта выразна мілітарны бюджэт, дзеля таго, што найменш 57% бюджэту ідзець на ўзброеньне і на армію. Пытаюць часта, ці маець Польшча мілітарыстычныя замеры, ці вядзе Польшча імпэрыялістычную палітыку? Я-б сказаў, што

**Польшча вядзе мілітарыстычную палітыку,**
аднак-жа не патрабуе пакуль што мець мілітарыстычных замераў, а гэта дзеля таго, што сяньня Польшча цалком

**насычана чужой людн̄асьцю і чужымі землямі**
і іменна дзеля гэтага, каб гэтую чужую людн̄асьць, гэтыя меншасьці, перад усім тэрыторыяльныя, а знача ўкраінцаў і беларусаў, утрымаць у належнай карнасьці і паслухмянасьці і зламаць іх, дзеля гэтага патрэбны мілітарны бюджэт. А гэта ёсьць вынік вялікай сьлепаты палітыкі ўрадовых чыньнікаў, дзеля таго, што ніякая армія, калі-б Польшча азброіла з ног да галавы ўсю людн̄асьць—мужчын і жанок навет, то ніводная, кажу, армія ў недалёкай будучыне не патрапіць змагацца на два фронты, ці то з Расеяй, як такой, ці то з саюзам усходніх народаў, і не патрапіць змагацца з Нямеччынай з другога боку. Вось дзеля гэтага польская палітыка павінна быць — мірная, не мілітарная.

**Паліцэйская палітыка ў школьніцтве.**

Прашу паноў, пагледзімо, як гэты „апалітычны“ прэм'ер, каторы абяцаў з гэтай трыбуны быць безстароньнім і апалітычным, пагледзімо, якую ён вядзе ўнутраную палітыку ў галіне школьніцтва. Сьмела можна сказаць, што так

# Пісьмо Б. П. К. да Пэнлевэ.

Старшыня Беларускага Пасольскага Клюбу паслаў вядомаму францускаму дзеячу Пэнлевэ, падпісаўшаму пратэст проці „белага тэрору“ ў Польшчы, гэткае пісьмо:

У той мамэнт, калі Заходняя Беларусь, адарваная Рыжскім Трактатам ад сваей Маткі, надарэмна дабівалася праз сваіх прадстаўнікоў у польскім Сойме і Сэнаце сваіх патаптаных элемэнтарных правоў, мы з аблягчэньнем пачулі голас пратэсту проці істнуючага ў Польшчы белага тэрору,—пратэст, пад якім не вагаліся падпісацца найбольш сьветлыя прадстаўнікі сучаснае Францыі.

Ад імя Беларускага Народу і яго парляманцкага прадстаўніцтва ў Сойме і Сэнаце Польскае Рэспублікі лічу сваім пачэсным абавязкам высказаць Вам і Вашым калегам, Пане Пасол, нашу глыбокую ўдзячнасьць і высокае прызнаньне за гэты так шляхотны одрух людзкага ўчуцьця.

Пры гэтай нагодзе я пазваляю сабе перасляць Вам, Пане Пасол, найшчырэйшыя павіншаваньні з прычыны Вашай і Вашых палітычных прыяцеляў перамогі на парляманцкіх выбарах, а такжа высказаць пераканаsuccessfully ньне, што Францыя, ідучы шляхам сваіх высокіх ідэалаў Вялікае Рэвалюцыі, на дзеле захоча падтрымаць справядлівыя імкненьні Беларускага Народу да ўладжаньня сваей долі згодна з воляй сваей.

Прыміце, Пане Пасол, словы шчырага шацунку і паважаньня.

(—) *Базыль Рагуля*, Старшыня Беларускага Пасольскага Клюбу ў Сойме і Сэнаце Польскае Рэспублікі, Пасол на Сойм.

Варшава, 28 мая 1924 г.

---

Аўтаномія тэрытарыяльная на даўжэйшы час не разьвязала-бы гэтай справы аканчальна, а толькі залатала-б яе.

**Аднак, народ наш беларускі ня верыць ужо сяньня ў магчымасьць тэрытарыяльнай аўтаноміі, бо ведае, што калі-б нават які кольвек Сойм пад прымусам якіх кольвек „прычын“ гэтую справу правёў і даў-бы аўтаномію, то няма пэўнасьці, каб гэта аўтаномія, таксама, як і канстытуцыя, ня была пагвалчана і зламана. Беларускі народ сьцьвярджаец толькі факты і сяньня яшчэ тым больш абарачывае свае вочы на ўсход (галасы: Jazda! Голас на лявіцы:** але разам з зямлёй і з людзьмі), **дзе бачыць магчымасьць разьвіцьця, і дзе многа робіцца, каб, ведама, цяжкае сяньняшняе эканамічнае палажэньне селяніна было палепшана.**

У часе, калі нашая люднасьць, церпячы ўціск і сыстэматычнае перасьледаваньне, траціць даверые да самога гаспадарства, трудна, каб мы маглі мець якое-небудь даверые да п. Грабскага, такога аднабокага палітыка. Тым больш будзем пратэставаць проціў даваньня яму якіх-небудзь паўнамоцтваў. **Ня маючы даверыя да сяньняшняга ўраду, ня маем так-жа даверыя і да сяньняшняга Сойму і дамагаемся новых выбараў. Урэшце, ня можам мець лішне вялікіх надзей і на новы Сойм. Спасьцярога і зімная развага змушаець да вываду, што разьвязаньня тых палючых задач прыходзіцца чакаць найхутчэй ад глыбокіх устрасеньняў, ад палітычнай і сацыяльнай рэвалюцыі...**

(**Словы:** а вы іменна на гэта і чакаеце)...

---

„бязчэльнага“ міністра ў адносінах да школ народных меншасьцяў, як п. Міклашэўскі, дасюль ня было. (*Крык на правіцы. Галасы*: Як можна аб міністру сказаць, што ён бязчэльны?! Гэтага слухаць ня можна!)

*Віцэ-маршалак Марачэўскі*: (звоніць). Прашу Паноў супакоіцца. Калі моўца сказаў штось неадпаведнага, то я даведаюся аб гэтым з стэнограмы і прызаву да парадку.

*П. Тарашкевіч.* Калі ўжыў неадпаведнага слова, то гатоў даць за гэта сатысфакцыю, але няхай паны толькі паслухаюць, як п. Міністар Міклашэўскі, зачыняючы сыстэматычна школы, уводзіць да школы паліцэйскую сыстэму.

Вось-жа па дні 1-га мая беларускія і жыдоўскія школы ў Вільні атрымалі ад віленскага куратарыуму запытаньне, якія вучыцялі і вучні ў дзень 1-га мая ня прышлі да школы. Ня ведаю, як гэта маю назваць... (*Крык, голас: Беларускае сьвята ёсьць 1-га мая.*).

### Зямельная справа.

Або зямля... Гэтае пытаньне ёсьць першае для шырокіх масаў люднасьці беларускай і ўкраінскай. Як гэтае пытаньне стаіць? Пастаянна абяцуецца зямельная рэформа. На пасьледак—ня віна ўраду і ня віна адміністрацыі, што справа зямельнае рэформы ў той ці ў іншы спосаб праведзена ў Сойме. Але як земскія ўрады трактуюць беларускага мужыка? Там перад усім пытаюць, хто ты такі: ці ты паляк, ці беларус? Адным памагаюць, другім ставяць перашкоды на кожным кроку.

Найвышэйшыя ўлады, найвышэйшыя паньствовыя „czynniki“, пастаўленыя сьцерагчы лад, кажуць, што толькі палякі ў Польскай Рэчыпаспалітай маюць правы, толькі яны ёсьць гаспадары зямлі, а ўсе другія — грамадзяне другой клясы. Хто так казаў, дзе казаў, панове добра ведаеце. (*Голас на жыдоўскіх лавах*: той, каторага мы выбралі. Шчасьлівым ходам акалічнасьцяў ня быў забіты, як Нарутовіч). Каб утрымаць у паслухмянасьці люднасьць, якая запраўды ўтраціла цярплівасьць, якую дагэтуль мела, трэба сяньня легіёнаў паліцыі. Побач арміі, побач войска стаіць другая паліцэйская армія. На нашых вачох Польшча (*голас на лавах меншасьцяў*: палюець на людзей!) што раз выраджаецца ў паліцэйскае гаспадарства. (*голас на правіцы*: бароне вас ад бандытызму, які ёсьць у Расеі)! Што робіцца з гэтым бандытызмам, то зараз скажу. У прошлым годзе, чуючы а гвалтах паліцыі, выехаў я да паветаў: Пінскага і Косаўскага. Аб'ехаў два паветы, і там пасьля ведамага нападу ў Тэлеханах ня было бадай вёскі, а ў вёсцы ня было мужчыны, каторы-б ня быў у агідны, брутальны спосаб скатаваны. Старыя з заціснутымі зубамі нічога не гаварылі, але тая моладзь, у каторай кіпіць гарачая кроў, гаварыла:

**Цяпер будзем шукаць дарогі да помсты!**

Гэта ёсьць адна з прычын „бандытызму“. І цьверджу рашуча, што чым больш будзе паліцыі на Крэсах, тым большае будзе забурэньне, тым больш будзе таго, што панове слушна ці няслушна завіцё бандытызм. Бо гэтая паліцыя на Крэсах, у тэй скольказьці, у якой там знаходзіцца, запраўды ня мае нічога да работы, як толькі правакаваць. Такога паліцэйскага ўціску, такога рэжыму яшчэ наш народ ня бачыў. (*Голас на правіцы*: Аб якім пан гаворыш, ці аб гранічным, ці аб унутраным?) Аб унутраным. Так, дзе даўней адзін паліцыянт, ці адзін стражнік, ці таксама адзін расейскі ўраднік даваў сабе раду, там сяньня ёсьць па 10-цёх, 15-цёх паліцэйскіх. Аднак і гэты паліцэйскі ня ёсьць выпрабаваны, як адпаведны фаховы элемэнт. Гэты паліцыянт, каторага гаспадарства ня можа дасканальна аплаціць, бо, маючы столькі паліцыі, ня можа добра плаціць, гэты паліцыянт шукаець пабочных заработкаў. Я дасканальна ведаю, што паліцыя ў цэлай чарзе мястэчкаў маець даручэньне даставіць столькі а столькі пратаколаў у працягу месяца. А калі гэты паліцыянт не даставіць, то яго выкідаюць.

Урэшце Польшча дачакалася, што ў гэтую справу ўмяшаліся чужыя дзяржавы і гуманітарныя арганізацыі.

Дык што-ж думаеце рабіць з гэтай справай? Пан міністар Грабскі тутака выступаў зусім не як прэм'ер, а толькі як міністар фінансаў. Ён думае, што справа ўнутранай і заграпічнай палітыкі, бюджэтныя і фінансавыя справы ня маюць нічога супольнага, і ня хоча аб гэтым гутарыць, а калі нават што і робіць, то робіць у тайніцы. Паважна і праўдзіва гэтай справы ніхто ня хоча трахтаваць, а калі хто захоча патрахтаваць, то хацеў-бы яе зрабіць якімісь паўспосабамі (*голас на правіцы*: А які ёсьць цэлы спосаб?. *Голас на лявіцы*: **самавызначэньне!**)

---

# Польскі бюджэт у Сойме.

### 1. Правіцы—„палітыка“, лявіцы—„санацыя“.

Апошнія паседжаньні Сойму амаль ня выключна заняты агульнымі спрэчкамі аб бюджэце і зьвязанай з апошнім крытыкай палітыкі ўраду п. Грабскага і яго дамаганьня прадоўжыць і пашырыць тыя надзвычайныя паўнамоцтвы, якімі ўрад карыстаўся дзеля направы скарбу праз гэтае паўгоду.

Амаль ня ўсе прамовы слушна адзначалі, што ў сваей вялікай справаздаўчай прамове п. Грабскі выступаў толькі, як міністар фінансаў, як добры спэцыяліст у падатковай тэхніцы, але зусім не як палітычны галава ўсяго ўраду: ён не парушыў ані воднага з найбольш палючых палітычных пытаньняў Польшчы.

І гэта—зусім ня дзеля таго, што п. Грабскі — „зусім аполітычны“, што яго ўрад „мае выключна фінансава-санацыйную задачу“, як падсоўвае думку сам прэм'ер і яго калегі... — Каму-ж ня ясна, што ўрад п. Грабскага—выразна палітычны, што прэм'ер вядзе яскрава рэакцыйную, нацыяналістычную палітыку?.. Але слушна кажуць, што спрытны прэм'ер сваей сьвядомай рэакцыйнай палітыкай падкупае правіцу, якую як-ні-як прыходзіцца скубсьці дзеля направы скарбу, а з другога боку п. Грабскі аж надта добра ведае, што польская лявіца за „направу скарбу“ лёгка прабачыць яму зьвярыны нацыяналізм яго палітыкі.

І гэтае дасьціпнае балянсаваньне „назначанага п. Прэзыдэнтам“ непарляманцкага прэм'ера паміж правіцай і лявіцай вельмі добра адбілася ў агульных бюджэтных спрэчках. Агульны характар і вынікі апошніх можна было лёгка прадбачыць: правіца бурчэла на міністра фінансаў Грабскага за яго падатковую палітыку, але прэм'еру Грабскаму выразіла даверые, а лявіца кідала, як звызайна, свае бутафорскія пяруны і маланкі на тых „калегаў прэм'ера“, якія вінаваты ў дрэннай палітыцы ўраду, але самога п. прэм'ера Грабскага, як жонку цэзара, ставіла вышэй усялякіх падазрэньняў...

З паасобных цікаўных мамэнтаў у агульнай масе шэра-няздарных прамоваў правіцы і лявіцы адзначым ніжэй паданае.

### 2. Пяруны і маланкі з пэпэсаўскай хмары.

Барліцкі (П.П.С.) выразіў трывогу за будучыну направы скарбу: бюджэтная раўнавага дасягнута толькі праз надзвычайны падатак з маемасьці. Калі яна ня ўтрымаецца, дык ізноў наступіць папяровая паводка, упадзе марка і злоты. Дарагоўля ня меншае, бо ўрад не вядзе з ёй барацьбы, аднэй рукой змушае маючыя клясы плаціць падаткі, а другой дазваляючы ім багацець коштам працоўнага насяленьня. Урад нічога ня робіць дзеля безработных... П. Барліцкі прапануе вельмі рацыкальныя спосабы: аддаць пад „дзяржаўна-грамадзкі кантроль усю прамысловую прадукцыю і гандаль“, добра ведаючы, што ня толькі ўрад п. Грабскага, але і ніводная з партыяў у Польскім Сойме, нават сама П.П.С., ня зробіць гэтага, як не зрабіў таго і „сацыялістычны“ ўрад Англіі...

П. Барліцкі вінаваціць — камісара ашчаднасьці Маскалеўскага, што гоніць са службы дзеля „эканоміі“ толькі лявіцоўцаў, лае мін. справядлівасьці, які ў сваіх судах „іначай судзіць рэдактара „Газ. Варшаўскай“, а іначай рэд. „Роботніка“;—вінаваціць мін. прасьветы, што „зьніштажае беларускую і украінскую нацыянальныя школы“, слушна пагражаючы ўраду, што „справа меншасьцяў“ са справы ўнутранай можа зрабіцца замежна-палітычнай і выклікаць міжнародную інтэрвэнцыю...

П. Барліцкі радзіць п. прэм'еру Грабскаму „даць аўтаномію ўсходнім землям—беларускім і украінскім“, а іншым меншасьцям „даць пачуць дух Польскай канстытуцыі“. („Kur. Polski“).

П. Барліцкі вінаваціць п.п. Замойскага, Скірмунта і Хлапоўскага, якія на радыкальныя зьмены ў заходня-эўрапэйскіх урадах глядзяць, як на „часовае непаразуменьне“... Вінаваціць нават зусім безадказную па канстытуцыі асобу „высокага дастойніка, які сваімі фразамі задзіўляе сьвет“...

Але п. пасол з П.П.С. не вінаваціць толькі аднаго: таго самага п. прэм'ера Грабскага, які паводле Канстытуцыі нясе першую і найвялікшую адказнасьць за ўвесь урад. Рэзалюцыя П.П.С., не адмаўляючы даверыя п. Грабскаму, адмаўляе толькі прадаўжэньня надзвычайных паўнамоцтваў яго ўраду.

### 3. Жыдоўскія прароцтвы.

Цікавую па свайму крытычнаму пэсымізму прамову сказаў жыдоўскі пасол Райх. Ён сказаў, што ў выніку „санацыі скарбу“ ня будуць мець грошаў ані польскія грамадзяне, ані польскі скарб... Далей п. Райх казаў, што ў Польшчы няма ніякай кіруючай палітычнай ідэі, апроч антысэмітызму і байкоту жыдоў, што Польшча мае амбіцыю „быць народам сільным толькі пасярод слабых“...

### 4. Расейскія скаргі.

Расеец Сярэбрэнікаў заявіў, што, калі беларусаў і ўкраінцаў у Польшчы трахтуюць, як грамадзян II клясы, дык расейцаў у Польшчы лічаць грамадзянамі яшчэ ніжэйшага—бо аж III сорту!.. У выніку гэтага і вочы расейцаў зварачаюцца на Ўсход, адкуль павінна прыйсьці апека...

### 5. Даверые пакрыўджаных „хлопаў“.

Пас. Плюта з польскага „Хлопскага Саюзу“ сьцьвярдзіў, што для польскай вёскі ўрад Грабскага не зрабіў нічога: аграрная рэформа ня скранулася нават з месца. Але ўсё-ж такі „да п. Грабскага „хлопскі“ саюз мае поўнае даверые“...

### 6. „Пяруны“ правадыра „Вызваленьня“.

Цікавую па сваей далікатнай крытыцы ўраду п. Грабскага прамову сказаў правадыр „Вызваленьня“, пас. Тугут, які, як кажуць, спадзяецца, што п. Грабскі можа запрасіць яго самога ў склад свайго габінэту. Дзеля таго п. Тугутт перадусім нападаў на п. мін. ўнутраных спраў, слушна лічучы сябе кандыдатам іменна на гэтае месца...

П. Тугутт падаў паміж іншым вельмі цікавую вестку аб тым, як разьдзяляюцца крэдыты дзяржаўнага скарбу (пазыкі народных грошаў на льготных варунках). — Апошнія 50 мільёнаў злотых былі панам Грабскім „падзелены“ так, што дробныя зямляробы, з якіх складаюцца тры чверці насяленьня Польшчы, дасталі ад дзяржавы на падтрыманьне сваей гаспадаркі штосьці каля 2 міл. злотых, інакш кажучы, штось каля 200,000 марак на душу, а рэшту ўзялі прамыслоўцы і абшарнікі...

Няма што і казаць аб тым, што з гэтых мільёнаў беларускі хлебароб дык не атрымаў ані воднай маркі!..

На зямельную рэформу ў бюджэце п. Грабскага няма ані воднай маркі, калі ня лічыць... асадніцтва! Але на апошняе п. Тугут неяк зусім не абураецца. На павялічэньне капіталу Польскага Банку асыгнавана 1333 злот., а вось на вясёлыя паляваньні п Прэзыдэнта Рэспублікі, паноў міністраў і іх гасьцей у Белавежскай Пушчы, ці дзе інш. пан „санатар“ дзяржаўнага скарбу выкінуў народных грошаў аж 40.000 злотых ..

— „Гэта-ж папросту зьдзек“—кажа пасол Тугут.

У мініст. ўнутраных спраў—такі „дух“, што нават прышлы міністар п. Тугут, гэты прыхільнік італьянскіх фашыстаў, радзіць папросту — „біць у ім вокны“...

„У мін. справядлівасьці, кажа пасол Вызваленьня, ня будзе дабра, пакуль судзьдзя мае адвагу пытацца у падсуднага, за які сьпісак ён падаваў голас“...

Міністэрства прасьветы „дзеля эканоміі“ звольніла 2.000 вучыцялёў, пазачыняла шмат школаў і ня

